№ I (6) люты 1989



# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ



RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

## БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

### ПАСЛАНЬНЕ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА З НАГОДЫ 22 СУСЬВЕТНАГА ДНЯ МІРУ 1989г!

Пашана нацыянальных меншасьцяў умовай міру.

У сваім пасланьні Папа закрануў вельмі важную і актуальную праблему нацыянальных меншасьцяў, якая для нас Беларусаў ёсьць вельмі актуальнаю. Ён піша між іншым: "Адною з мэтаў законнае дзяржавы ёсьць прызнаньне аднолькавай годнасьці ўсіх грамадзян, ды іх роўнасьці перад правам. Тым не менш, існаваньне ўнутры дзяржавы асобных груп нацыянальных меншасьцяў стварае праблему іх спэцыфічных правоў і абавязкаў. Многа такіх правоў і абавязкаў адносіцца менавіта да рэляцыі паміж групамі нацыянальных меншасьцяў а дзяржаваю. У некаторых выпадках такія нормы былі сфармуляваны і нацыянальныя меншасьці цешацца спэцыяльнаю аховаю закона. Аднак-жа нават там, дзе дзяржава забяспечвае такую ахову, нацыянальныя меншасьці спатыкаюцца часта з фактычнаю дыскрымінацыяю і ізаляцыяю: ў такіх выпадках дзяржава мае абавязак ахоўваць і падтрымліваць правы нацыянальных меншасьцяў, тым больш, што мір і ўнутраная бяспека могуць быць гарантаваныя толькі пры пашане правоў усіх тых, што знаходзяцца ў абьёме яе адказнасьці.

Першым правам нацыянальных меншасьцяў ёсьць права на існаваньне. Права гэтае бывае часта парушана ў розны спосаб, аж да крайніх прыпадкаў, калі ёсьць яно не прызнаванае праз яўныя або пасрэдныя формы масавага зьнішчаньня людзей. Права на жыцьцё як такое ёсьць бясспрэчнае і дзяржава, якая ўжывае або дапускае дзейнасьць, якая пагражае жыцьцю сваіх грамадзян, каторыя належаць да груп нацыянальных меншасьцяў, парушае асноўнае права, якое рэгулюе грамадзкі парадак. Пагроза праву на існаваньне можа таксама прымаць выгляд больш тонкі. Некаторыя народы, асабліва тыя, якія акрэсьліваем як аўтахтоны ці тубыльцы, былі заўсёды асабліва зьвязаны з уласнаю зямлёю, што спалучаецца з пачуцьцём іх тоесамасьці, з іх племяннымі культурнымі і рэлігійнымі традыцыямі. Калі тубыльчыя народы ёсьць пазбаўлены сваёй зямлі, трацяць жывучы элемэнт свайго існаваньня і стаюць перад абліччам зьнікненьня як народ. ■

Іншым правам, якое павінна быць забясьпечанае, ёсьць права меншасьцяў на захоўваньне і разьвіцьцё ўласнай культуры. Здараюцца часта выпадкі, што нацыянальным меншасьцям пагражае сьмерць іх культур. У некаторых месцах устаноўлена заканадаўства, якое адмаўляе ім права карыстацца ўласнаю моваю. Часамі ўводзіцца прымус зьмены прозьвішчаў і геаграфічных назваў. Не зьвяртаецца ўвагі на мастацкую і літаратурную самадзейнасьць нацыянальных меншасьцяў, не знаходзяць яны таксама ў грамадзкім жыцьці месца для сваіх сьвятаў, урачыстасьцяў, што можа вясьці да зьнішчэньня багатай культурнай спадчыны. З гэтым правам цесна вяжацца права на ўтрымліваньне кантактаў з групамі з гэтай самай культурнай і гістарычнай спадчыны, якія жывуць на тэрыторыі іншых дзяржаў.

Аб праве на рэлігійную свабоду ўспомнім тут толькі коратка, таму што яно было тэмаю майго Пасланьня на Сусьветны Дзень Міру ў мінулым годзе. Права гэтае датычыць не толькі адзінак, але ўсіх рэлігійных супольнасьцяў і ахоплівае свабоднае маніфэставаньне рэлігійных перакананьняў як у індывідуальным жыцьці, так і ў калектыўным. Адсюль вынікае, што рэлігійныя меншасьці павінны мець забясьпечаную магчымасьць супольнага выконваньня культу паводле ўласных абрадаў. Павінна ім таксама быць зробленае магчымым імкненьне да рэлігійнай адукацыі за пасрэдніцтвам адпаведнага навучаньня, а таксама распараджаньне адпаведнымі сродкамі. Вельмі важнае апрача таго, каб дзяржава забясьпечыла і пасьпяхова падтрымлівала ахову рэлігійнай свабоды, асабліва там, дзе побач пераважаючай большасьці пасьлядоўнікаў адной акрэсьленай рэлігіі, знаходзіцца адна, або больш груп нацыянальных меншасьцяў іншага веравызнаньня. У канцы, павінна быць гарантавана рэлігійным меншасьцям адпаведная свабода абменаў і кантактаў з іншымі супольнасьцямі, як у рамках уласнага нацыянальнага асяроддзя, так і па-за ім.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА Ў САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДЗЯРЖАВЕ

Беларускі фонд культуры (больш дакладна: Беларускае адзьдзяленьне Савецкага фонду культуры) быў заснаваны ў красавіку 1987 году ў Менску. На арганізацыйным сходзе, ў прысутнасьці высокіх партыйных і ўрадавых дастойнікаў, была выбраная ўправа і... на гэтым усё бадай скончылася. Праўда, нядаўна на паседжаньні ўправы Фонду было пастаноўлена паставіць ў Менску помнікі Скарыне, Каліноўскаму і... Пушкіну. Адным словам Фонд спаткаў лёс іншых падобных бюракратычных мерапрыемстваў, заданьнем якіх ёсьць не займацца канкрэтнай дзейнасьцю, але "праяўляць клопат".

Тым ня менш спачатку многія беларусы ўскладалі вялікія надзеі на Фонд, верачы, што пры яго дапамозе можна будзе зрабіць нешта карыснае для палепшаньня трагічнага стану беларускай культуры. Гэта датычыла ў першую чаргу сябраў розных камісіяў Фонду. Адна з іх, падышла вельмі сур'ёзна да сваіх абавязкаў і апрацавала праграму дзейнасьці, якая была прынятая на паседжаньні камісіі 28 красавіка 1988г. Нават пры павярхоўным знаёмстве са зьместам праграмы робіцца ясным, чаму яна да гэтага часу не была нідзе надрукавана...

Праграма моўнай камісіі зьяўляецца спробай аналізу сучаснага трагічн. стану беларускай мовы ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця, і малюе жахлівы вобраз духоўнага спустошэньня, выкліканага дэнацыяналізатарскай палітыкай адміністрацыі ў адносінах да беларускага народу.

Асабліва вострай крытыцы камісія паддае палітыку гэтак званага "двухмоўя", якая да гэтага часу зьяўляецца афіцыяльнай палітыкай партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва ў Беларусі і якая, паводле аўтараў праграмы, зьяўляецца нічым іншым як прыладай русыфікацыі і разбурэньня беларускага нацыянальнага этнасу. Аўтары перасьцерагаюць, што калі не прымуцца радыкальныя меры цяпер, лёс, які сустрэў Беларусь, чакае таксама іншыя нерасейскія народы Савецкага Саюзу.

У адрозьненьне ад шматлікіх "нефармальных" (гэта значыць афіцыяльна непрызнаных) груп і аб,еднаньняў, Беларускі фонд культуры цешыцца афіцыяльным прызнаньнем і падтрымкай найвышэйшых партыйных і дзяржаўных органаў БССР. Гэты факт надае праграме моўнай камісіі значэньне асаблівай важнасьці.

Сваімі непасрэднымі задачамі Камісія беларускай мовы лічыць між іншым: "падтрымку выкарыстаньня беларускай мовы ў канфэсыйнай дзейнасьці".

## ХРОНІКА

(студзень)

### I. ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

У студзені Ян Павал II меў кожнае серады тыдня сваю агульную аўдыенцыю ў Аўлі Паўла УІ. Вось тэмы яго разважаньняў:

- 4 OI. Гаварыў пра значэньне сьвята Боскага Мацярынства Марыі і пра Богаяўленьне.

II OI. Катэхіза была на тэму: "Зышоў у пекла"

-I8. OI. У сваім навучаньні навязаў да пачатку тыдня малітвы за адзінства хрысьціян.

- 25 OI. "Уваскрасеньне- гэта гістарычнае здарэньне ды гарантыя веры".

Кожнай нядзелі месяца студзеня а таксама ў пятніцу 6 студзеня Яго Сьвятасьць адгаворваў разам з верующымі Багародзічную малітву "Анёл Гасподні", якую заўсёды папярэджваў прамовамі. Вось пра што гаварыў Папа:

- I OI. Выказаў спачуваньне сем'ям, якіх ахапіў боль спрычыны зьняволеньня некаторых іх членаў.
- 6 OI. Успомніў між іншым аб Сьвяце Хрыстовага Нараджэньня, якое ўшаноўвае хрысьціянскі Усход 7 студзеня.
- 8 OI. Гаварыў пра Сьвята Гасподняга Хрышчэньня.
- I5 OI. Гаварыў пра сьвяцілішча ў Мар'яцэль (Аўстрыя)

22 OI. Прысьвяціў сваё разважаньне Тыдню малітвы за адзінства хрысьціян (заўсёды ўшаноўваецца I8-25 студзеня)

- 29 OI. Затрымаўся думкаю пры "Чорнай Мадоньне" ў швайцарскім свяцілішчы Айсідэльн

Першага студзеня Яго Сьвятасьць з нагоды Новага Году адслужыў Сьвятую Імшу ў Базыліцы Сьвятога Пятра.

У пятніцу 6 студзеня на Сьвята Богаяўленьня (паводле новага стылю) Ян Павал II пад-час Літургіі ў Базыліцы Сьвятога Пятра высьвяціў 13 біскупаў.

У нядзелю 8 студзеня ў Аўлі Блаславенстваў ахрысьціў 44 дзяцей.
9 студзеня спаткаўся з дыпламатычным прадстаўніцтвам пры Апостальскім Пасадзе, каб абмяніцца пажаданьнямі з нагоды Новага Году.

26 студзеня Папа паклікаў да існаваньня "Бюро Працы Апостальскай Сталіцы".

## II. ГУТАРКІ И ВЕСТКІ

У студзені бягучага году мы адзначылі наступныя гадавіны:
- 40 ўгодкі пакутніцкае сьмерці айца Адама Станкевіча.
- 75 гадавіну з дня нараджэньня Валянціна Таўлая.
- 150 годдзе нараджэньня Алеся Сянкевіча.

Важнейшыя гутаркі и паведамленьні:
- агульны малітоўны намер Сьвяцейшага Айца на студзень 1989г.: "Каб рэлігійная свабода была ўсюды шанавана і, каб вернікі супрацоўнічалі між сабою ў пошуках справядлівасьці і міру."
- Ці можа "Пагоня" дапамагчы беларускай мове- разважаньне пра сфэру ўжытку беларускай мовы.
- далі перагляд дзейнасьці Сьвяцейшага Айца ў мінулым 1988 годзе.
- нарысы з царкоўнага жыцьця ў Мадзярышчыне.
- перадалі праект звароту ініцыятыўнае групы канфэдэрацыі беларускіх суполак да беларускае моладзі.
- рэлігійныя сэкты ў Лацінскай Амэрыцы.
- агульны намер Сьвяцейшага Айца на месяц люты: Каб малітва, пакута і Сакраманты абяднoўвалі сьвятароў, законных асоб і лаікат у абажаньні Бога і ў служэньні іншым.
- ўспомнілі пра пасьля-сынадальную Апостальскую Экзартацыю Яна Паўла II-- аб пакліканьні і місыі сьвецкіх асоб у Царкве і ў сьвеце.
- пачалі перадаваць фрагмэнты з кніжкі "навука і рэлігія" айца Гарошкі.
- пра візіт кардынала Этчэгэрая (старшыні камісыі Юстыцыя эт Пакс) на Кубе.
- пра стварэньне Расейскай Праваслаўнаю Царквою спэцыяльнай камісыі, для дасьледаваньня дакумантаў і матарыялаў, якія тычацца рэабілітацыі духоўных і сьвецкіх асоб- ахвяр сталінізму.
- аб эміграцыі жыдоў з Савецкага Саюзу.
- аб манiфэстацыях у Празе з нагоды 20 угодкаў самагубнай сьмерці Яна Паляха

Апрача таго сталай часткай нашых праграм зьяўляюцца суботнія і нядзельныя рэлігійныя гутаркі. Першыя- паводле візантыйскага, а другія паводле лацінскага абраду. Кожную сераду перадавалі мы адрэзкі: "Гісторыі Беларусі" напісанай др.Антонам Гаеўскім. У панядзелкі чыталі "Гісторыю Новага Запавету" айца Гадлеўскага.

ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ СТУДЭНЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ Ў ПОЛЬШЧЫ!

Беларускія студэнты ў Польшчы праяўляюць шмат ініцыятываў у розных аспэктах нацыянальнага жыцьця. Каб сваю дзейнасьць зрабіць болей эфэктыўнай і ўстойлівай, вясною мінулага году рашылі заснаваць сваю незалежную арганізацыю. І так, 26 сакавіка ўзнік Устаноўчы камітэт Беларускага абьяднаньня студэнтаў, у скарачэньні- БАС. У сваёй заснавальніцкай дэкларацыі студэнтыініцыятары напісалі: "Арганізацыя будзе абьядноўваць, незалежна ад сьветапогляду, беларускіх студэнтаў у Польшчы, а таксама студэнтаў іншых нацыянальнасьцяў, грамадзян Польскай Народнай Рэспублікі, сімпатыкаў беларускай справы. Мэтай БАС зьяўляецца патрыятычнае ўзгадаваньне маладой беларускай інтэлігэнцыі, разьвіцьцё нацыянальнай культуры беларускай меншасьці ў Польшчы і яе папулярызацыя ў польскім унівэрсытэцкім асяроддзі. Заснавальнікі дэкларавалі, што "арганізацыя мае легальны характар і будзе дзейнічаць у згодзе з Канстытуцыяй ПНР".

Інфармацыі пра нова створаную арганізацыю паявіліся ў беластоцкай "Ніве". У ёй можна было прачытаць, што БАС, гэта працяг намаганьняў старэйшых сяброў зарэгістраваць арганізацыю з такой самай назвай у 1981 годзе. Як ведама, ваеннае палажэньне ў Польшчы спыніла тадышнія дзеяньні студэнтаў. Цяпер, у зменёных умовах была надзея на іншы падыход улады, таму заснавальнікі БАС адразу разгарнулі шырокую прапагандысцкую працу і ўжо праз месяц арганізацыя налічвала больш за 120 членаў, хаця не было яшчэ накіравана прашэньне аб яе рэгістрацыі. Такая пэтыцыя ў Гарадскую ўправу Варшавы, ў яе грамадзкаадміністрацыйнае аддзяленьне, паступіла 18 траўня. Разам з тым былі накіраваны лісты да рэктараў і студэнцкіх самакіраваньняў тых вышэйшых навучальных установ, дзе стварыліся актыўныя беларускія цэнтры, гэта значыць да Варшаўскага ўнівэрсытэту і яго філіялу ў Беларстоку, Беластоцкай палітэхнікі і Мэдычнай акадэміі ў Беластоку. У лісьце сьцвярджаецца, між іншым: "Насупраць стэрэатыпаў і распаўсюджаных поглядаў, цяперашняя Польшча не зьяўляецца аднанацыянальнай краінай. Некалькі сот тысячная беларуская мяншыня жыве ва ўсходніх раёнах беластоцкага, сувальскага і бела-падляшскага ваяводстваў. Мы не зьяўляемся імігрантамі, жывем на зямлі нашых бацькоў і дзядоў. У Польшчы даволі многа студэнтаў-беларусаў. Студыююць яны практычна ва ўсіх вышэйшых навучальных установах краіны, але найбольшыя цэнтры, гэта: Беласток, Варшава, Люблін і Ольштын. Дзеяньні самых беларусаў, пачынаючы ад 1980 году, засьцераглі нас ад распушчэньня ў шматтысячнай студэнцкай масе. Існуе беларускае студэнцкае жыцьцё, існуюць некаторыя арганізацыйныя яго формы. Не заспакойваюць яны поўнасьцю нашых патрэб, перад усім, не даюць магчымасьці на вонкавае прадстаўленьне нашых спраў". Беларускае абьяднаньне студэнтаў будзе дзейнічаць галоўным чынам у беларускім асяроддзі. У нас шмат уласных патрэбаў і праблем. Аднак інтэгральнай часткай нашай працы будзе пашыраньне ведаў пра Беларусь і беларускую меншасьць ў Польшчы ў польскай грамадзкасьці дзеля стварэньне фактычнага пагадненьня і супрацоўніцтва між суседнімі народамі. Таму ў БАС знойдзецца месца для студэнтаў польскай нацыянальнасьці,

якім не абыякавы лёс Беларусі, а што за тым следуе, будучыня беларуска-польскіх адносін". Зьвяртаемся да ўсяго ўнівэрсытэцкага асяроддзя, да ўладаў навучальных установаў з просьбаю аб прыхільным стаўленьні і падтрымцы для нашых намаганьняў рэгістраваць БАС. Спадзяемся, што на гэты раз адміністрацыйныя, ані ніякія іншыя цяжкасьці не стануць перашкодаю ў рэалізацыі нашых імкненьняў".

Ад імя Устаноўчага камітэту, перад сэнатам Варшаўскага Унівэрсытэту выступіў Юрка Ляшчынскі. БАС атрымаў адабрэньне гэтай найбольшай вышэйшай навучальнай ўстановы ў Польшчы, а таксама абяцаньне падтрымкі ў будучыні.

19 жніўня прыйшоў адказ уладаў. І на гэты раз адмоўны. У матывіроўцы чытаем: "Аналіз далучаных да прашэньня матарыялаў, а перад усім праект статута, дае падставы лічыць рэгістрацыю Беларускага абьяднаньня студэнтаў нематазгоднаю. Студэнты беларускай меншыні могуць дзейнічаць на грамадска-культурнай ніве ў рамках існуючых структур, гэта значыць у Агульнапольскай радзе культуры студэнтаў нацыянальных меншасьцяў пры Радзе культуры Згуртаваньня польскіх студэнтаў і Маладзёжнай сэкцыі Беларускага грамадска-культурнага таварыства". (Заканчэньне ў наступным нумары)

## СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

Нядаўна дайшлі на Захад два нумары Студэнцкай Думкі (грамадска-палітычнага ды культуралагічнага часопісу студэнцкага патрыятычнага згуртаваньня "Сьвітанак"). У першым нумары, лістапад-сьнежань 1988 год падаецца праграма дзейнасьці гэтага згуртаваньня. Абапіраецца яна на адозве, якая была зьмешчана ў 3 нумары даўняй Студэнкай Думкі за верасень-кастрычнік 1928 году, дзе чытаецца:

"Беларускае студэнства!

У так важную гістарычную хвіліну зьвяртаемся да Цябе з заклікам:

Кожны будзь на сваім месцы! Гэта знача, хто Беларусам і студэнтам чуецца і завецца, будзь такім усюды, скрозь і заўсёды. Нашаму бо пакаленьню суджана разбудовываць вялікую Будыніну Бацькаўшчыны. А да гэтага патрэбна перадусім глыбокая вера, вера ў сьвятасьць сваіх пачынаньняў, ды бязумоўнацьвёрдая дысцыпліна.

Беларускае студэнства!

Пад бел-чырвона-белым сьцягам вучыся пільна і сумленна. Гэтага жадае ад Цябе Бацькаўшчына наша сяньня. А скончыўшы навуковыя прыгатаваньні- кожны і адусюль з тым-жа нацыянальным сьцягам сьпяшайся на родны беларускі палетак. Гэта мэта Твая заўтрашняя".

Нам астаецца толькі пажадаць посьпехаў беларускім студэнтам у іхняй працы.

Шчасьці Божа!

ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Шчыра дзякую за перасыланы на мой адрас "Беларускі Інфарматар". З вялікім зацікаўленьнем я прачытала ў "Хрысьціянскіх Навінах" аб Тысячагоддзі хрысьціянізацыі Беларусі. Чытаючы гэтыя весткі аж сэрца радуецца і ўзрушаецца, што беларускія эмігранты-дзеясы трымаюцца разам і хоць знаходзяцца так далёка ад сваей Бацькаўшчыны, то аднак жа думкай і сэрцам яны так бліска з ёю- захоўваючы сваю родную мову, свае традыцыі і каталіцкую веру сваіх бацькоў і дзядоў.

У сувязі да артыкулу др.Віктара Сенкевіча прысвечанага памяці майго дарагога і любімага дзяцькі ксяндза Пятра Татарыновіча насунулася мне такая рэфлексія, што Яго праца над каталіцкай верай і ідэяй беларускага патрыятызму не пайшла ў забыцьцё- але яна прадоўжваецца.

Др.Віктар Сенкевіч і сп.Станістаў Бубень ў сваіх артыкулаў, успамінаючы постаць і дзейнасьць сьвятой памяці кс.Татарыновіча паказалі яго ў праўдзівым сьвятле, такім якім ён быў сапраўды. Апошнія гады жыцьця майго дзяцькі былі труднымі, ахоплены настальгіяй; адчуваючы вялікую самотнасьць- вельмі цярпеў, аддалены ад сваіх родных. І вось ў гэтым часе ахвярныя догляды сп. М.Пецюкевіч, як і візіты айца Маскаліка ды законніцы Тэрэсы былі для Яго вялікай прыемнасьцю і адною радасьцю. У апошніх гадах Яго жыцьця, калі не мог ужо сам пісаць, сп-я Пецекевіч была інфарматарам аб фактычным стане Яго здароў'я для яго сястры сп-і Міхаліны ў Польшчы.

Цераз Вашую, Рэдакцыйную праграму жадаю злажыць вялікую і шчырую падзяку ўсім вышэй ўспомненым, а асабліва сп-і Пецюкевіч, за іх ахвярную працу і добрую памяць аб Ім. Таксама перасылаю сардэчнае і шчырае дзякуй ўсім прыяцелям кс.Татарыновіча рассыпаных па цэлым амаль жа сьвеце, ў каторых у памяці засталася добрая думка аб памёршым і каторыя за жыцьця спамагалі Яго малітваю маральна і матарыяльна ў Яго эдытарскай дзейнасьці для дабра нашых эмігргатаў і нашай Бацькаўшчыны.

З пашанай
Анеля Татарыновіч-Пшыбыльска

8 студзеня г.г. у Беластоку мелі месца паховіны Віктара Рудчыка, журналіста "Нівы", раней таксама рэдактара беларускіх праграм Беластоцкай радыёстанцыі Польскага Радыё. Незадоўга да свае сьмерці спадар Рудчык прыслаў нам свой нідзе не друкаваны верш - водгук на апошнія падзеі ў Беларусі. Няхай публікацыя гэтага верша заменіць нашую кветку на магілу Віктара Рудчыка.

БЕЛАРУСЬ НА РАСЬПЯЦЬЦІ

БЕЛАРУСЬ - мой люд, зямля і маці!
Дзе-ж знайсьці Табе ў сэрцы словы?
Тысячу гадоў Ты на расьпяцьці
ў вянку пакутуеш цярнёвым...

Вечна разрывалі Табе грудзі -
кроў найперш лілася па Нямізе,
Потым Вслай, Волгай ды ад Жмудзі...
аж да торгаў за Цябе у Рызе.

Ты на сьвет глядзела цераз краты,
задыхаўшыся суседзяў сьмехам.
Не адзін Твой лес, як К у р а п а т ы,
адгукаўся дасьмяротным рэхам.

Затыкалі вусны залпам зброі,
каб сваёй забылася Ты мовы.
На Валоўюшках душылі мроі
аб жыцьці сваім, свабодным, новым.

Дык у краі родным сталі мы слугамі
і чужую песьнб пяюць дзеці,
а над беларускімі лугамі
сонейка суседзкае нам сьвеціць...

Чацьвёрты кожны... а сі-ж не болей? -
з рукі чужой, суродзіча і брата...
Ты з Хрыстосавай сьплялася доляй,
Беларусь - на крыжы вось расьпята!

Так браты ў злобе зацьвярдзелай
катоўскае чаўпуць зьвярнэньне,
каб ніколі больш над Русьсю Белай
не заясьнела ўваскрашэньне.

За грахі чые цярпець на крыжы
ад вякоў Табе даводзіцца?
Беларусь - ці зможаш Ты нам выжыць?
Ці краса Твая зноў адродзіцца?

Ці галгоўных збыўшыся пакут,
Ты свабодна пойдзеш у вякі?
А калі пачуешся бяз пут,
Каінам сваім даруй грахі!

Дан у месьце Беластоку, у Дзень Дзядоў, Року Божага 1988.